www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 26 (4175)**

31 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



БЛІЦ

## Ёсць вакансія?

*На адной з нарад А.Р.Лукашэнка даручыў чыноўнікам вырашыць праблему з працаўладкаваннем усіх беспрацоўных да 1 мая.*
*– Але людзі павінны разумець, што яны перш за ўсё самі павінны шукаць сабе працу, – заявіў Аляксандр Лукашэнка. – А мы ім павінны дапамагчы. Да 1 мая ўсе павінны быць працаўладкаваны.*
*І запомніце: у якое б я месца і раён ні прыехаў, мой памочнік выедзе туды загадзя і запросіць публічна беспрацоўных людзей да мяне на сустрэчу. І не дай бог пасля 1 мая такія людзі будуць!*
*«Народная Воля» звярнулася на некаторыя беларускія прадпрыемствы і пацікавілася вакансіямі.*

**Інга РАДЗЕВІЧ, намеснік дырэктара па ідэалогіі, працы і кадравых пытаннях СЗАТ «Магілёўскі вагонабудаўнічы завод»:**

– Усе вакансіі, якія ў нас ёсць, пададзены на біржу працы. Ідзе цякучка: людзі прыходзяць, пакідаюць анкеты, адбываюцца гутаркі і гэтак далей. На прадпрыемстве поўны працоўны дзень, і зарплаты выплачваюцца своечасова.

**Алена МЕЛЬНІК, начальнік аддзела кадраў і падрыхтоўкі кадраў ААТ «Пінскі мясакамбінат»:**

– На сённяшні дзень ёсць вакансіі абвальшчыкаў мяса. Ці плануецца павялічваць набор супрацоўнікаў, сказаць не магу.

**Рыгор АРЦЁМАЎ, намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях ААТ «Бабруйскі камбінат хлебапрадуктаў»:**

– У наш філіял агракамбіната патрабуюцца два заатэхнікі, два ветурачы, інжынер па сельгасмашынах, галоўны бухгалтар, трактарысты. Грошы трэба працай зарабляць. Напрыклад, даярка, у якой сутачныя надоі 18 літраў на карову, зарабляе ў нас 600 рублёў.

Больш падрабязную інфармацыю можна паглядзець на нашым сайце. Справа ў тым, што ў сельскую гаспадарку мала хто хоча ісці. Асабіста маё меркаванне: сёння беспрацоўных быць не павінна. Вядома, у Беларусі ёсць розныя замарочкі, каб адкрыць фермерскую гаспадарку (трэба хадзіць па райвыканкамах, збіраць дакументы), але пры жаданні ўсё можна вырашыць.

Можна атрымаць тры гектары зямлі. Я, як дэпутат раённага Савета, займаюся гэтым пытаннем. У нас усе жадаючыя атрымалі зямлю, але такіх няшмат. Мы ў свaёй гаспадарцы, бачачы, што чалавек імкнецца працаваць, даём у растэрміноўку карову на 6 месяцаў. За гэты час ён разлічваецца малаком за кошт каровы (і сам сілкуецца), а ўжо наступныя месяцы прадае малако на сваё меркаванне. Калі хтосьці хоча працаваць, то, я лічу, сёння дзяржава дае такую магчымасць.

**Людміла РАКАШЭВІЧ, начальнік аддзела прававой і кадравай работы ААТ «Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод»:**

– Сёння адкрыта толькі адна вакансія: спецыяліст па маркетынгу. З вельмі жорсткімі патрабаваннямі да кандыдатуры. Рабочыя не патрэбны, і набіраць не плануем.

**Генадзь ЦЕЦЯРУК, намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай працы, персанале і сацыяльным развіцці ААТ «Мазырскі НПЗ»:**

– У нас усё ідзе па плане: вызваляюцца месцы – прымаем людзей. У мінулым годзе на прадпрыемстве было створана 220 працоўных месцаў. Набіралі групы, самі іх навучалі. Мы вельмі сур'ёзна ўкамплектаваліся. Павялічвацца такім чынам штогод не можам. Калі будзе неабходнасць у кадрах, то будзем разглядаць рэзюмэ, якія можна адпраўляць на наш сайт.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ДЫПКУР'ЕР

## Учора ў Ашхабадзе ўрачыста адкрылі офіс амбасады Беларусі ў Туркменістане


Фота belta.by





Як вядома, у гэтыя дні праходзіць візіт А.Лукашэнкі ў Туркменістан. Падчас візіту, 30 сакавіка, і быў урачыста адкрыты комплекс беларускай амбасады. Сімвалічную стужку перарэзалі кіраўнікі дзвюх дзяржаў – **Аляксандр Лукашэнка** і **Гурбангулы Бердымухамедаў**, паведаміла БЕЛТА.

З інтэр'ерам адміністрацыйнага будынка амбасады кіраўнікоў дзяржаў пазнаёміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Туркменістане **Алег Табанюхоў**. Потым Лукашэнка і Бердымухамедаў пасадзілі дрэвы на тэрыторыі амбасады.

Беларуская амбасада займае ўчастак плошчай 0,73 га на поўдні Ашхабада. У комплекс уваходзяць двухпавярховы адміністрацыйны будынак, жылы васьмікватэрны дом для работнікаў амбасады, гараж і аўтастаянка, а таксама збудаванні інжынерна-тэхнічнага забеспячэння.

Сёння А.Р. Лукашэнка прыме ўдзеў у адкрыцці Гарлыкскага горна-абагачальнага камбіната, пабудаванага беларусамі.

ПЕРАСЛЕД

## Куды знік Алег Волчак?

*Доўгі час ніхто не ведаў пра месцазнаходжанне праваабаронцы.*

21 сакавіка суд Фрунзенскага раёна Мінска завочна асудзіў кіраўніка праваабарончага цэнтра "Прававая дапамога насельніцтву" (Кіеў) **Алега Волчака** на 13 сутак адміністрацыйнага арышту. Яго судзілі за ўдзел у "Маршы абураных беларусаў", які прайшоў у сталіцы 17 лютага. Сам праваабаронца ў суд не з'явіўся, доўгі час пра яго месцазнаходжанне нічога не было вядома.

"*Я нікуды не знікаў, а ездзіў па справах ва Украіну*, – распавёў Алег Волчак "Народнай Волі". – *Мае інтарэсы на судзе прадстаўляла адвакат. Зараз я вярнуўся дадому, і мы падалі на рашэнне раённага суда касацыйную скаргу, якую Мінскі гарадскі суд разгледзіць 31 сакавіка*".

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## «Не вінаваты. Апраўдаць»

*Сёння, 31 сакавіка, павінен выйсці на волю праваабаронца Андрэй Бандарэнка.*



А ўчора ў судзе Ленінскага раёна Магілёва яго судзілі за быццам бы злоснае і сістэматычнае парушэнне парадку адбывання пакарання ў папраўчай установе – турме №4 горада Магілёва. Пракурор **Сяргей Мінаў** заявіў у судзе, што віна Бандарэнкі даказана паводле часткі 2 артыкула 411, і прасіў суд даць Бандарэнку 1 год строгага рэжыму, узяўшы яго пад варту.

Аднак суддзя **Сяргей Мазураў** вырашыў, што ў дзеяннях Бандарэнкі адсутнічае склад злачынства, што ён не імкнуўся супрацьдзейнічаць турэмнай адміністрацыі. Яго рашэнне: "Не вінаваты. Апраўдаць".

Андрэй Бандарэнка – былы кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн», што займалася маніторынгам месцаў зняволення. У 2014 годзе яго прызналі вінаватым у хуліганстве, злосным хуліганстве і асабліва злосным хуліганстве ў дачыненні да трох грамадзян і асудзілі на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Сёння, 31 сакавіка, тэрмін яго трохгадовага зняволення заканчваецца.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### Віталь БУДРЭВІЧ:

## «Чаму нехта думае, што ён можа не плаціць за праезд?»

*Намеснік начальніка кантрольна-рэвізорскай службы філіяла ДП "Агенцтва "Мінсктранс" распавёў "Народнай Волі", як будуць працаваць сталічныя кантралёры з 1 красавіка.*



Фота TUT.by

Пачынаючы з наступнага месяца, мінскія кантралёры будуць працаваць на лініях разам з добраахвотнікамі-дружыннікамі. На думку генеральнага дырэктара ДП "Мінсктранс" Лявонція Папянка, гэта "*дапаможа пазбегнуць эксцэсаў пры афармленні кантралёрамі штрафаў, а пры неабходнасці дружыннікі дапамогуць даставіць безбілетнага пасажыра ў аддзяленне міліцыі*".

Брыгады "памочнікаў" будуць набіраць з рабочых прадпрыемства "Мінсктранс" і яго філіялаў. І гэтыя людзі – самыя сапраўдныя альтруісты, бо працаваць народныя дружыннікі збіраюцца бясплатна ў вольны ад работы час альбо ў свае выхадныя.

– У гэтым месяцы было яшчэ адно нoваўвядзенне, – дадае **Віталь БУДРЭВІЧ**. – У сакавіку мінскія кантралёры пачалі працаваць у трамваях без спецыяльнай экіпіроўкі і сталі, так бы мовіць, менш прыкметныя. Правіламі перавозак у электратранспарце не прадугледжана наяўнасць камізэлькі. Але пры сабе яны заўсёды маюць пасведчанне, бэйдж, тэрмінал кантралёра і відэарэгістратар.

**– Тралейбус – таксама электратранспарт…**

– Пакуль такі варыянт не разглядаецца, тым больш што работа нашых людзей на трамвайных лініях без формы носіць эксперыментальны характар. Рана казаць пра нейкія вынікі, але, безумоўна, кантралёры без экіпіроўкі – гэта дадатковыя нязручнасці для "зайцаў".

**– Мяркуеце, што дружыннікі павысяць адказнасць пасажыраў?**

– Самім кантралёрам будзе значна лягчэй, дый безбілетнікі будуць ведаць, што так проста не пазбегнуць адказнасці. Чаму нехта павінен плаціць за праезд, а хтосьці думае, што яму дазволена гэта не рабіць? Вам жа не прыходзіць у магазіне думка вынесці прадукты бясплатна…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МАСКВА–МІНСК

## Зноў не дамовіліся…



Беларусь і Расія не змаглі дамовіцца аб урэгуляванні газавай спрэчкі па выніках перамоў прэм'ер-міністраў дзвюх краін – **Дзмітрыя Мядзведзева** і **Андрэя Кабякова**. Пра гэта заявіў журналістам кіраўнік Мінэнерга **Аляксандр Новак**, паведамляе ТАСС. "*Абмеркавалі пазіцыі бакоў, яшчэ раз зверылі бягучую сітуацыю. На жаль, не дамовіліся канчаткова аб урэгуляванні канфлікту*», – сказаў міністр. Паводле яго слоў, Беларусь не гатова пагасіць доўг за газ, на сёння ён перавышае 700 млн долараў.

КТО ЕСТЬ КТО

### Павел ВИНОГРАДОВ:

## «Я даже хотел судье Татьяне Мотыль апельсинов привезти…»

*Буквально на днях журналист Александр Борозенко получил 15 суток ареста за то, что выполнял свои профессиональные обязанности во время акции 25 марта в Минске. Такое решение вынесла судья Московского районного суда Минска Татьяна Мотыль.*

*Сотрудники ОМОНа задержали Александра Борозенко вместе с другими людьми возле магазина «Океан» на пересечении проспекта Независимости и улицы Козлова. По его словам, он несколько раз представился и обратил внимание правоохранительных органов на то, что он журналист, но все равно был отправлен в автозак. В протоколе сказано, что Борозенко стоял и махал руками, нецензурно выражался. В суде Александр все отрицал. Сообщалось, что суд удовлетворил ходатайство журналиста о просмотре записи видеотрансляции, которую вел он сам. Как выяснилось, Борозенко во время акции молчал и подал голос только во время задержания, когда представлялся. На видеозаписи, кстати, хорошо слышно, что Александр кричит: «Я журналист! Журналист!»*

*Но судья отправила его на 15 суток за решетку.*

*Мы поинтересовались, кто такая судья* ***Татьяна Мотыль****. О ней «Народной Воле» с удовольствием рассказал молодежный активист* ***Павел Виноградов.***

– После событий 2010 года Татьяна Мотыль была внесена в список невъездных в страны Евросоюза, – *рассказывает молодежный активист **Павел Виноградов***. – Мотыль Татьяна Ярославовна также прославилась тем, что всегда готова выступать судьей в политических делах. У меня лично с ней связано судов пять или шесть. И она каждый раз на полном серьезе спрашивает, доверяю ли я ей. Я каждый раз отвечаю: нет, не доверяю – и подробно объясняю почему. Рассказываю, что у нее, на мой взгляд, плохая репутация, что она неоднократно выносила политически мотивированные приговоры мне и моим друзьям. Но результата все это не дает. Она к моим доводам ни разу не прислушалась.

Если я встречаю ее в суде либо на улице – всегда с ней здороваюсь. Причем делаю это подчеркнуто вежливо, с широкой улыбкой. Говорю: «Здравствуйте, Татьяна Ярославовна!» Она тоже со мной здоровается. Правда, без улыбки…

Был очень короткий момент либерализации в стране, когда даже судья Татьяна Мотыль вместо суток давала штрафы по административным делам. Во всех остальных случаях у нее всегда не меньше 15 суток. Один раз дала мне даже 25 суток, а вот меньше 15 – никогда! По моему мнению, она всегда готова присуждать за политически мотивированные дела большие сроки.

Подробностей биографии и личной жизни Татьяны Ярославовны Мотыль я не знаю. По внешнему виду ей примерно за 50 лет. Она не начинающий судья, а уже опытный человек в своей сфере. Во время суда кажется, что она все понимает. Хочешь свидетелей своих? Да пожалуйста! Хочешь видео в доказательство своей невиновности показать? Конечно, давайте посмотрим. Посмотрели? Все увидели? Ну тогда 15 суток. И так у нее постоянно… А что в качестве свидетелей выступают те, кто и составлял протокол, – это ее как будто не волнует. Принять во внимание точку зрения оппозиционера, что вы, есть же пояснения людей в погонах – на этом и поставим точку.

Как-то я узнал, что у Татьяны Ярославовны Мотыль возникли проблемы со здоровьем, я даже знал, в какой больнице она лежит. У меня был искренний душевный порыв – отвезти ей в больницу апельсинов. Но потом что-то меня остановило от этого шага. Подумал, что она меня не поймет…»

Фотографий судьи Татьяны Мотыль ни в социальных сетях, ни в интернете в открытом доступе нет.

«Может, когда-нибудь я предложу ей сделать совместное селфи, – улыбается Павел Виноградов. – Правда, не знаю, согласится ли она… Наверное, это будет очень смешное фото…»

**Марина КОКТЫШ.**

ВЫЗВАЛЕННЕ

## Аляксандр Лапіцкі «вылечыўся»

*Фрунзенскі суд Мінска адмяніў прымусовае лячэнне 80-гадовага пенсіянера. З красавіка ён будзе ўжо дома.*




У красавіку мінулага года суд устанавіў, што пенсіянер абражаў прадстаўнікоў улады і прыняў рашэнне ўжыць у дачыненні да яго "прымусовыя меры бяспекі і лячэння".

14 лістапада пенсіянера накіравалі ў псіхіятрычны шпіталь, дзе ён і знаходзіўся ўвесь гэты час без аніякага лячэння, але пад наглядам урачоў.

Пасля таго як урачэбна-кансультацыйная камісія Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя прыняла рашэнне, што знікла неабходнасць далейшага ўтрымання пенсіянера ў бальніцы, суд гэта таксама падтрымаў. Судовае рашэнне ўступіць у сілу 3 красавіка.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Да +21ºC

Ужо ў суботу на тэрыторыю Беларусі прыйдзе цёплае паветра з паўднёвага захаду Еўропы. Днём тэмпература складзе +11…+18ºC, па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да +20ºC, і толькі ў крайніх паўночна-ўсходніх раёнах дзённыя максімумы ўсяго +5…+10ºC.

У нядзелю яшчэ цяплей – днём +14…+21ºC.

Народная Воля http://www.nv-online.info
31 САКАВІКА 2017 г.

ДИАГНОЗ



## Противогрибковый крем в Польше стоит в 4 раза дешевле, чем в Беларуси

Несмотря на заявления чиновников от фармации, что цены на лекарства в Беларуси жестко регулируются государством, а Минздравом принимается немало мер для того, чтобы не допускать необоснованного роста цен на таблетки, порошки, капли и т.д., по-прежнему разница в цене на одни и те же лекарственные препараты в Беларуси и в соседних странах сохраняется. И разница эта не в нашу пользу. Цены на некоторые лекарства в Польше ниже, чем в Беларуси, в 2, 3 и даже 4 раза! Причем независимо от того, какая фармацевтическая компания их производит и от каких болезней они применяются. То есть дешевле можно купить препараты практически всех лекарственных групп. Судите сами.

**Средние ценники в аптеках Белостока и аптеках Минска 26 марта 2017 года (в долларах США):**

| Название препарата | Белосток | Минск |
|---|---|---|
| Противогрибковый крем **«Тербизил»** (Terbisilum) 1%, 15 г, №1 (Гедеон Рихтер, Венгрия) | 1,75 | 7,7 |
| **Смекта** (Smecta) пор. внутр., 3 г, №30 (Бофур Ипсен, Франция) | 6,7 | 9,5 |
| Комбинированный препарат от давления **Нолипрел форте А** (Noliprelum forte A) таб. п/о, 5мг/1,25мг, №30 (Сервье, Франция) | 6,9 | 15,8 |
| Противовоспалительная суспензия **Нимесил** (Nimesilum), 100 мг, 2 г, №30 (Берлин-Хеми/Менарини, Германия) | 4,4 | 10 |
| Лекарственный препарат при ишемических нарушениях сердца **«Предуктал MR»** (Preductalum) таб п/о, 35 мг, №60 (Сервье, Франция) | 9,2 | 12,6 |
| Слабительное **«Форлакс»** (Forlaxum) порошок, 10 г, №20 (Бофур Ипсен, Франция) | 6,2 | 7,5 |
| Порошок при простудах **Фервекс** (Fervexum), №8 (БМС, Австралия) | 4,7 | 6,3 |

Кроме того, такие популярные в народе немецкие препараты, как «Ренни» от изжоги или «Эспумизан» от вздутия живота, в белорусских аптеках продаются только в маленьких упаковках. А в Польше выбор более широкий, и гораздо выгоднее покупать упаковки, в которых не 24 или 25 таблеток, а 48, 60 или 100. Так, например, у нас 24 таблетки «Ренни» стоят минимум 3,5 доллара, да еще попробуй их найди – не во всех аптеках этот препарат есть в наличии, а в Польше можно купить упаковку в 48 таблеток за 4,7 доллара. Что касается «Эспумизана», то у нас в наличии есть только упаковки по 25 таблеток, и одна такая стоит в среднем 2,5 доллара. В Польше предлагаются упаковки по 100 таблеток и по цене 4,5 доллара.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

SOS!

## У Полацкім раёне знік чалавек

*Мужчыну шукаюць ужо два тыдні.*

Жыхар вёскі Ветрына Уладзімір Серада не вярнуўся дамоў 15 сакавіка. Да сённяшняга дня яго месцазнаходжанне невядома.

Пошукі супрацоўнікаў міліцыі і пошукава-выратавальнага атрада «Анёл» пакуль не далі вынікаў. Прычын, па якіх 62-гадовы мужчына мог самастойна збегчы з дому, сваякі не бачаць.

Прыкметы: рост – 173 см, звычайнага целаскладу, вочы зялёныя, валасы русыя з сівізной, светлыя кароткія вусы.

Быў апрануты: цёмна-сіняя зімовая куртка са светлым каўняром, чорны світар на маланцы, цёмныя спартыўныя штаны, зімовыя боты ахоўнага колеру.



Аб месцазнаходжанні жыхара Полацкага раёна можна паведаміць па тэлефонах: (+375-33) 6666-856 (атрад «Анёл»), Полацкі РАУС (8-0214) 42-32-02 або 102.

**Васіль КОРЗУН.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Мікалая Казлова ў адзін дзень судзілі адразу ў двух судах

*Падпалкоўнік міліцыі ў запасе ўжо абскардзіў іх рашэнні (арышт на 4 сутак і штраф у 45 базавых велічынь), а таксама рыхтуе ліст да генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Канюка і скаргу ў Следчы камітэт.*



Але аб усім па парадку.

– 24 сакавіка мяне павінны былі "судзіць" у судзе Савецкага раёна Мінска за збор подпісаў супраць дэкрэта аб "дармаедстве", што наша міліцыя расцаніла як пікетаванне і склала на мяне пратакол, – расказвае Мікалай Казлоў. – Подпісы я збіраў на Камароўскім рынку. Па ўсёй краіне актывісты збіралі гэтыя подпісы, але толькі ў мяне – пікет. Абсурд! І спачатку суд нават не стаў гэтым займацца, бо і ахоўнікі Камароўкі пацвердзілі, што там не было ніякага пікета. Матэрыялы суддзя адправіў у міліцыю на дапрацоўку, і 24-га павінен быў адбыцца паўторны разгляд.

Але за суткі да гэтага, 23-га, мяне затрымаў АМАП. Тое, як затрымлівалі, – асобная размова. Проста ў двары, дзе жыву, пасярод белага дня. Як толькі выйшаў з пад'езда, наляцелі пяць амапаўцаў і, як заўсёды, прад'явілі стандартны набор абвінавачанняў: маўляў, груба і нецэнзурна лаяўся ў адрас дзеючай улады. То бок сам з сабою "вёў гутарку"... Суткі я правёў у ЦІПе (*Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў Мінгарвыканкама. –* ***Рэд.***), а 24 сакавіка раніцай мяне пад канвоем адвезлі ў суд Цэнтральнага раёна. Натуральна, што ніводнага цывільнага сведкі ў судзе не было, суддзя слухаў толькі амапаўцаў, якія блыталіся ў паказаннях, але тым не менш адправіў мяне за краты на чацвёра сутак. Зразумела, што рабілася гэта для таго, каб я не трапіў на акцыю 25 сакавіка.

Суд у Цэнтральным раёне, дарэчы, працягваўся доўга, з 9 да 11 гадзін, я так думаю, наўмысна, каб я не паспеў у суд Савецкага раёна. І там мяне судзілі завочна за пікет, якога не было. Рашэнне суда: 45 базавых велічынь! А гэта, між іншым, больш за тысячу рублёў, ці амаль 550 долараў па курсе Нацбанка. Бюджэт жа трэба папаўняць!

Абодва судовыя рашэнні я ўжо абскардзіў: накіраваў касацыйныя скаргі ў Мінскі гарадскі суд.

Зараз яшчэ рыхтую ліст да генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Канюка пра ўмовы ўтрымання ў ЦІПе. Тое, што там робіцца, стаўленне персаналу да затрыманых – гэта свінства, знявага, садызм, мела месца нават катаванне. Прычым няма розніцы, "палітычны" ты ці не, да ўсіх ставяцца аднолькава па-свінску, прыніжаюць, абражаюць.

**– Напрыклад?**

– За тое, што я пісаў звароты кіраўніцтву ЦІПа, каб ахоўнікі выконвалі свае абавязкі, звяртаў увагу на тое, што затрыманых па некалькі дзён не выводзяць на шпацыр, не водзяць у душ і г.д., мне прылюдна пагражалі "ласточкой", асобнымі ўмовамі і г.д. Адабралі ўсе ручкі, паперу, а потым увогуле, прабачце за такі выраз, азвярэлі – на суткі з усёй камеры забралі матрацы. І людзі не спалі ўсю ноч, бо ляжаць на драўляных, збітых з дошак нарах у прынцыпе немагчыма, дошкі ўпіваюцца ў цела. І камера была перапоўнена: 7 чалавек у шасціместнай камеры. Я нават не ведаю, калі матрацы вярнулі, таму што на наступныя суткі мяне перавялі ў Жодзінскі СІЗА. Мабыць, каб я не пакінуў ніякіх запісаў у кнізе скаргаў ЦІПа.

Думаю, яны разлічвалі, што ў мяне здарыцца канфлікт з іншымі сядзельцамі. Але гэтага не адбылося, наадварот, мяне ўсе падтрымалі, людзі яшчэ нават перажывалі, што падпарадкаваліся загаду і самі вынеслі матрацы з камеры. Літаральна ўсе пакінулі мне свае прозвішчы, тэлефоны і сказалі, што падпішуцца, калі я буду пісаць зварот у Генпракуратуру. На мой погляд, гісторыя з матрацамі – гэта катаванне. І я казаў пра гэта ахоўнікам. Яны толькі пасміхаліся, напэўна, думаюць, што катаванне – гэта калі іголкі пад пазногці і што ўсё ім сыдзе з рук. Але я гэта так не пакіну. Прычым буду пісаць не толькі генпракурору, але і ў ГУУС Мінгарвыканкама, якому падпарадкоўваецца ЦІП, каб яны праверылі сваіх супрацоўнікаў на адпаведнасць пасадзе. Лічу, што ў ЦІПе павінна прайсці шчыльная праверка, магчыма, ахоўнікаў трэба абследаваць у псіхіятраў, таму што, на мой погляд, у іх відавочныя садысцкія схільнасці. Прычым, што мяне моцна здзівіла, такіх там асноўная маса. Зрэдку трапляюцца нармальныя людзі.

Яшчэ пра што немагчыма маўчаць – як кормяць у ЦІПе. Прывязуць абед у 2–3 гадзіны дня, а ў 5 – ужо вячэра. Гэта каб машыну, якая прывозіць харчаванне, два разы не ганяць. Каштуе харчаванне ў дзень аж 11 рублёў 50 капеек, хаця ежай гэта наўрад ці можна назваць. Кожны другі выліваў гэтую бурду ва ўнітаз, сасіску яшчэ з'ядуць, а кашу, суп, які нагадвае памыі, – не. За тыя грошы, што гэта ўсё нібыта каштуе, можна купіць дзве паўнавартасныя банкі тушонкі або кілаграм добрага мяса і яшчэ застанецца на крупу і гарбату. Я наогул нічога там не еў, адразу ж, 23-га, абвясціў галадоўку, а 24-га раніцай напісаў афіцыйную заяву, што адмаўляюся ад ежы. Калі вылічаць з мяне за харчаванне ў ЦІПе – падам заяву ў суд.

Дарэчы, буду звяртацца ў Следчы камітэт з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі, якія затрымлівалі мяне 23 сакавіка. Яны, на мой погляд, здзейснілі службовы падлог і перавысілі службовыя паўнамоцтвы, напісаўшы заведама фальсіфікаваныя рапарты.

**– Мікалай, вы ўжо столькі раз спрабавалі прыцягнуць да суда супрацоўнікаў міліцыі за іх незаконныя дзеянні. Не надакучыла? Усё роўна гэта ні да чаго не прыводзіла...**

– Не надакучыла: я напішу, а яны хай займаюцца. У рэшце рэшт, калі я брудна лаяўся, крычаў на ўвесь двор, то гэта павінны былі чуць людзі ў кватэрах. Нехта ж быў у гэты час дома. Іх трэба апытаць. Амапаўцы ўсё маё затрыманне фіксавалі на камеру з першай да апошняй хвіліны, пакуль не адвезлі мяне ў дзяжурную часць... Няхай усё застанецца ў архіве. І прозвішчы амапаўцаў, і подпісы следчых, якія будуць у гэтым разбірацца. Калісьці ж іх час скончыцца...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЧУЛІ?

## Даражэй, чым у Еўропе і Расіі

З 28 красавіка, на тыдзень пазней за сусветны старт продажаў, у Беларусі пачнуць прадавацца смартфоны Galaxy S8 і Galaxy S8+. Афіцыйны кошт Galaxy S8 у Беларусі складзе 1849 рублёў. Galaxy S8+ будзе каштаваць 1999 рублёў.

У Еўропе Galaxy S8 ацанілі ў 799 еўра (1617 рублёў па курсе Нацбанка), Galaxy S8+ – у 899 еўра (1819 рублёў). У Расіі навінка таксама будзе каштаваць танней, чым у Беларусі, – 54.990 і 59.990 расійскіх рублёў адпаведна (1810 і 1975 беларускіх рублёў).

РЭГІЁН

## З Віцебска ў Калінінград, Турцыю і Балгарыю

*Першыя рэйсы «Белавія» запланаваны на пачатак чэрвеня.*

Жыхарам Віцебскай вобласці цяпер не абавязкова дабірацца да галоўнага аэрапорта краіны, каб патрапіць у Турцыю ці Балгарыю. Таксама ў гэтым годзе «Белавія» арганізавала новы рэйс у Калінінград. Першы пералёт – 9 чэрвеня.

З Віцебска вылет у 16.15, з Калінінграда – у 13.40 па мясцовым часе. Палёт будзе доўжыцца крыху больш за гадзіну.

*– У Віцебску можна набыць квіткі ў авіякасах па праспекце Будаўнікоў, 2,* – сказалі «Народнай Волі» ў віцебскім філіяле дзяржаўнага прадпрыемства «Белаэранавігацыя». *– Пералёт у абодва бакі ў Калінінград абыдзецца ў 120 еўра. Квіткі ўжо ёсць у продажы.*

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ШЛАГБАУМ

Георгий БАСМАДЖАН, владелец компании «Георгий и сыновья»:

## «Запрет Россельхознадзора привел к тому, что наше предприятие не работает»

На днях стало известно, что глава Россельхознадзора Сергей Данкверт ответил на вопросы генеральной прокуратуры Беларуси о причинах запрета поставок мясных и молочных продуктов в Россию с ряда белорусских предприятий. Этот запрет, как известно, действует с конца прошлого года, а в феврале Александр Лукашенко поручил возбудить уголовное дело против главы Россельхознадзора. Во время «Большого разговора с президентом» он заявил, что Сергей Данкверт намеренно наносит ущерб Беларуси. В рамках доследственной проверки белорусская Генпрокуратура и направила российским коллегам вопросы к чиновнику. В свою очередь свои ответы Данкверт тоже направил в Генпрокуратуру Российской Федерации. Белорусской стороне они пока не переданы.

Правда, вряд ли стоит рассчитывать на то, что эти ответы будут содержать какую-то новую информацию. Пресс-секретарь Россельхознадзора Юлия Мелано заявила, что хоть ответы Данкверта – это *«довольно большой пакет документов»*, «*ответы совершенно рядовые*», в них перечислены все случаи и основания для каждого конкретного предприятия. А дальше она озвучила то, что уже все слышали: *«у российских ветеринаров имелись подозрения, что часть продукции после повторной упаковки и перемаркировки поступала в Россию через Беларусь из Европы и Украины, однако белорусская сторона не расследовала подобные факты. В Россельхознадзоре сочли, что продукция неизвестного происхождения представляет угрозу с точки зрения биологической безопасности».*

Среди предприятий, продукция которых попала под запрет Россельхознадзора, было и СООО «Георгий и сыновья» из д.Слобода Минского района.

– 70 процентов нашей продукции мы поставляли в Россию, – говорит сегодня владелец предприятия **Георгий Басмаджан**. – Думаю, были в первой тройке-пятерке белорусских поставщиков говядины в Россию. Успешно работали, зарплату людям неплохую платили, по 600–800 рублей. А сейчас…

Наши органы с меня брали пояснения, я рассказывал, как все было. Мои предположения такие: кто-то нас просто оговорил, потому что все произошло спонтанно, в течение нескольких минут. Позвонили и поставили перед фактом: все, больше вашу продукцию в Россию не берем. В один миг запретили, как отрезали.

**– Вы пытались объясниться? Данкверт ведь тогда открыто обвинил ваше предприятие в реэкспорте украинской говядины, заявил, что через вашу компанию шли незаконные поставки говядины из Украины в Россию.**

– Мы всегда покупали говядину в Украине, и то, что частично поставляли в Россию украинскую говядину, – это ж никто не отрицает. Но отправляли после переработки! Это были фарши, замороженные блоки, отруба. И это уже белорусская продукция, это белорусская переработка. И когда россияне говорят, что, мол, эта продукция неизвестного происхождения, она представляет угрозу с точки зрения биологической безопасности, – это все не так. На всех белорусских предприятиях контроль жесточайший.

**– Россияне еще заявили, что они хотели посетить ваше предприятие с проверкой, но получили отказ. Это правда?**

– Но ведь сначала они ввели запрет на нашу продукцию, а уже потом заявили, что хотят вместе с уполномоченными органами в области ветеринарного надзора Республики Беларусь посетить наше предприятие. Но если ввели запрет, что уже смотреть?! Поэтому наша сторона отказалась от этой проверки.

**– Как думаете, этот запрет будет снят с вас, с других белорусских предприятий?**

– Что касается других предприятий – не знаю. Думаю, у них сейчас дела идут не лучшим образом. А что касается нас, то в прошлом месяце мы объявили о ликвидации СООО «Георгий и сыновья». Но людей не уволили, будут на другом предприятии работать, новом.

Жаль, что так все получалось. 15 лет мы были на рынке, а этот запрет Россельхознадзора привел к тому, что наше предприятие уже не работает…

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СІТУАЦЫЯ

## Без заробкаў...

**Работнікам прыватнага прадпрыемства «РатиоЦентр» у Бабруйску не выплачваюць грошы ўжо 9 месяцаў.**

Некалькі гадоў таму цалкам паспяховае ўнітарнае прадпрыемства належала Бабруйскаму камбінату нятканых матэрыялаў. У 2013 годзе «РатиоЦентр» выкупіў адзін з бабруйскіх прадпрымальнікаў. Арганізацыя займалася вытворчасцю і продажам мэблі. На прадпрыемстве пачаліся перамены: зніжаліся аб'ёмы працы, падалі зарплаты, супрацоўнікі звальняліся і гэтак далей.

Сёння цэхі прадпрыемства не працуюць наогул, а калектыў ужо больш за паўгода прадастаўлены сам сабе.

*– Да пераходу ў прыватныя рукі мы нармальна працавалі,* – кажа супрацоўнік арганізацыі **Дзмітрый Шаўцоў**. – *Стабільна атрымлівалі зарплату, прэміяльныя, працавалі ў тры змены. Не скажу, што сталі багачамі, але на жыццё цалкам хапала. Можа быць, да гэтага часу працавалі б. Але новы гаспадар перш за ўсё дэмантаваў абсталяванне і здаў яго на металалом. Пачалася здача памяшканняў у арэнду, але няўдала, раслі даўгі, як следства, былі арыштаваны рахункі прадпрыемства і маёмасць, якая засталася.*

Паводле слоў жыхара Бабруйска, на прадпрыемстве было ўстаноўлена высокакваліфікаванае абсталяванне па перапрацоўцы другаснай сыравіны. З прыходам новага кіраўніцтва пачаўся распродаж уласнасці.

*– Да нас прыязджалі расіяне і афармлялі абсталяванне ў арэнду (загружалі прадпрыемства працай, а потым забіралі прадукцыю),* – тлумачыць Дзмітрый Мікалаевіч. – *Настолькі яно было рэдкім і патрэбным на вытворчасці, што заказчыкам з Расіі даводзілася ездзіць у Бабруйск. Адным словам, толькі працуй…*

Да продажу штат прадпрыемства налічваў 150 чалавек. За апошнія некалькі гадоў калектыў скараціўся больш як на палову. Афіцыйнага скарачэння ў арганізацыі не адбываецца – пакінутых работнікаў проста выжываюць адсутнасцю заробкаў.

Людзі пішуць заявы ў кампетэнтныя органы, звяртаюцца да чыноўнікаў, але ўсе спробы дамагчыся дапамогі застаюцца без выніку.

*– Нас проста кінулі, а прадпрыемства штучна развалілі,* – кажа мясцовы жыхар. *– Многія звяртаюцца ў суд. Ён прысуджае выплату індэксацыі, але выплат ніякіх няма. Толькі я двойчы звяртаўся ў Адміністрацыю прэзідэнта: адтуль мае заявы перанакіравалі ў Магілёўскі аблвыканкам. З Магілёва зварот перадалі ў пракуратуру, тыя адправілі заяву ў міліцыю. Міліцыя адправіла даручэнне ў інспекцыю па працы, там развялі рукамі і парэкамендавалі зноў звярнуцца ў Адміністрацыю прэзідэнта. Ходзім па крузе. Як жывём? Усе ў даўгах. Неяк прыходзіцца выкручвацца.*



АФІЦЫЙНА

## «На прадпрыемстве ідзе праверка»

*Пракаментаваць сітуацыю на прадпрыемстве «РатиоЦентр» у Бабруйску «Народная Воля» папрасіла дырэктара* ***Арцёма Корзуна.***

– Не ведаю, якая інфармацыя ў вас, – сказаў Арцём Васільевіч. – Цяпер на прадпрыемстве ідзе праверка па выплатах. Больш мне дадаць няма чаго.

**– Кажуць, 9 месяцаў людзі не атрымліваюць грошы...**

– Гэта няпраўда. І пакуль праходзіць праверка, адказваць на пытанні я не гатовы.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**



Народная Воля http://www.nv-online.info
31 САКАВІКА 2017 г.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

Юрий ПАШИК:

# «Родина в опасности!»



*Вы боитесь включать фен в розетку? Нет? А стоит!*
*Недавно в одной из белорусских испытательных лабораторий протестировали самый обычный электрочайник, купленный накануне в столичном магазине. «Он пыхнул так, что мы поразились! – говорят инженеры-испытатели. – Аналогичная картина с фенами и некоторой другой продукцией, представленной на нашем рынке».*
*Можно ли обезопасить себя при покупке электротоваров?*
*Почему за некачественную продукцию отвечает только магазин, а не поставщики?*
*Когда в Светлогорске запустят новый завод по выпуску беленой целлюлозы?*
*Почему бытовая техника в Польше стоит гораздо дешевле, чем у нас?*
*И что лучше – стимулировать отечественный бизнес или зарубежный?*
***Эти и некоторые другие злободневные темы мы обсудили с директором ОАО «Беллис» Юрием ПАШИКОМ.***

### Дорогой хлам

– Не так давно Госстандарт инициировал мониторинг, который должен был показать, что происходит у нас на рынке электротехнической продукции, – *рассказывает Юрий Пашик.* – Результаты поразили даже меня. За январь–февраль Госнадзор отобрал с рынка порядка 63 позиций различных изделий, 54 из которых оказались просто в ужасном состоянии. Причем по характеристикам, которые представляют реальную угрозу жизни.

По моему мнению, такого мусора, как сейчас, у нас на рынке никогда не было.

При этом около 90 процентов товаров под любыми брендами, которые есть в наших магазинах, завозятся в Беларусь не напрямую от мировых производителей, а через Россию. Причем самое удивительное, что если говорить о ценовом факторе, то фирменная бытовая техника в Польше, Литве, Украине, России стоит гораздо дешевле.

Важно отметить, что большинство электротехнической продукции, представленной на рынке, – мелкая бытовая, осветительная и прочая – это все Юго-Восточная Азия. И я отлично знаю, сколько это стоит там и сколько – у нас. Это сотни процентов маржи! И получается, что мы платим высокую цену за полный хлам.

На первый взгляд нам не очень много надо техники. Есть же и белорусские стиральные машины, холодильники достойного качества. Но кроме этого есть огромное количество прочего электробытового и промышленного импортного продукта, который мы покупаем довольно часто: кабели, крупная и мелкая бытовая электротехника, лампочки, светильники, зарядные устройства для мобильных телефонов, удлинители и многое другое.

Это огромные деньги, и мы оставляем их на территории России. Если говорить о конкретных цифрах, то, я думаю, они будут соизмеримы с теми деньгами, которые мы платим за энергоносители.

При этом, приобретая вещи сомнительного качества, мы не только рискуем жизнью, но и теряем валюту, которая могла бы остаться в нашей стране.

Такая структура рынка ликвидирует экономическую перспективу для развития национального малого и среднего бизнеса. Под словом «бизнес» я понимаю не торговлю, а реальный сектор экономики, производство. Если посмотреть на европейские страны, там значительная часть валового национального продукта формируется именно за счет малого и среднего бизнеса в сфере производства. Мы же скатились на сплошную торговлю и пытаемся все время что-то продавать друг другу.

Кстати, в Китае производством широкого перечня электротехнической продукции, в особенности мелкой бытовой техники, занят именно малый и средний бизнес.

Реалии таковы, что по цене с Юго-Восточной Азией практически невозможно соревноваться ни отечественным, ни европейским производителям. Чего не скажешь о качестве. Это понимают все!

Поэтому, как показал передовой мировой опыт, здесь принципиально важным является применение передовых международных стандартов при создании отечественной продукции, эффективная система технического регулирования и надзора на рынке с целью его защиты от некачественной, опасной продукции.

### Кабель преткновения

– В Светлогорске уже второй год не могут запустить завод по производству сульфатной беленой целлюлозы, – *продолжает Юрий Пашик.* – Дело в том, что Госстандарт принял жесткое решение, что кабельная продукция, которую на предприятие поставляла китайская компания «Самсе», никуда не годится. Кабель огнеопасный, сделан из плохих материалов. А это химический комбинат, который, по сути дела, находится в городской черте, – сами понимаете, случиться может всякое…

Но представители «Самсе» все время ищут какие-то оправдания! Вначале они убеждали, что белорусы ничего не понимают, и это – инновационная продукция, причем ряд иностранных компаний это может подтвердить. Начали разбираться – подтверждений нет. Потом они стали говорить, что у них имеются российские сертификаты. Последний сертификат привезли из Москвы в конце прошлого года. Стали выяснять, в какой лаборатории проводили испытания кабеля, – никто не может найти ее по адресам, указанным в документах!

Теперь принято решение менять кабель на новом заводе. А там почти тысяча километров! И это головная боль не столько китайцев, сколько в целом системы технического регулирования Евразийского экономического союза. Выяснилось, что россияне не лишили аккредитации фирму, которая выдала липовый сертификат, а лишь приостановили аттестат аккредитации. Но другие-то сертификаты, выданные этой конторой, продолжают действовать!

Самое страшное, что многие наши предприятия, в том числе и торговые, понимают, что зачастую имеют дело с поддельными документами. Но никто не думает, что будет потом…

И эта тенденция приобретает лавинообразный характер и касается не только кабельной, но и многой другой продукции. Причина на поверхности: во многом это формализация технического регулирования в России и превращение ее в огромный мафиозный, криминальный, политизированный сегмент на рынке.

Это абсолютно ненормальная и опасная для Беларуси ситуация!

И пустить на самотек вопросы безопасности граждан, продукции и инфраструктуры государство не может!

### Противоречивое соглашение

– Сегодня, с одной стороны, Беларусь является участником Евразийского экономического союза (ЕАЭС), и наши границы открыты для товаров из стран – участниц союза, – *отмечает Юрий Пашик.* – Есть, конечно, условие: они должны быть безопасными и соответствовать установленным требованиям и заявленным характеристикам.

С другой стороны, это требует эффективной системы технического регулирования и надзора на рынке в рамках всего ЕАЭС. А вот здесь проблемы!

Беларусь выступает с инициативами доработки дополнений в договор Евразийского экономического союза – в раздел «Техническое регулирование». И здесь мы уперлись в какой-то тупик. Настолько все плохо и безнадежно, что вы даже не представляете!

Попытки белорусской стороны что-то улучшить не находят адекватной поддержки.

В частности, в договоре записано, что заявителем на сертификацию **может быть** уполномоченный представитель, если мы говорим об импортных производителях. Сегодня произошла подмена понятий. Россия утверждает, что без посредника иностранный производитель не может быть даже заявителем на сертификацию! Итогом такой вольной трактовки базового союзного документа стало появление прослойки «уполномоченных» посредников, которые, не неся должной ответственности, предлагают серые схемы вовлечения продукции сомнительного качества в оборот на рынке ЕАЭС. При этом они сегодня окрепли финансово настолько, что уже влияют не только на чиновников и дилеров, но даже и на производителей и импортеров продукции в ЕАЭС. В этой связи особого внимания заслуживает ситуация с дискриминацией Федеральной таможенной службой России по национальному признаку результатов работ по оценке (подтверждению) соответствия, проведенных в Беларуси. При этом, угрожая применением процедуры дополнительного таможенного досмотра поставщиков, принуждают к сотрудничеству только с «уполномоченными» юридическими лицами, зарегистрированными в Российской Федерации.

Отдельные статьи договора о ЕАЭС просто противоречат друг другу. Например, в одном месте говорится, что среди стран ЕАЭС должно быть единство правил и методов измерения, единство требований техрегламентов, а в другом декларируется добровольное применение стандартов. Ну как так можно? Тот случай, когда психиатры должны читать внимательно этот документ и делать соответствующие выводы о его авторах.

Не менее тревожно обстоят дела и с разработкой и введением технических регламентов ЕАЭС в областях, стратегически важных для Беларуси.

Бесперспективными оказались затянувшиеся с 2010 года неудачные попытки россиян разработать технические регламенты в области энергоэффективности и энергомаркировки энергопотребляющей продукции. Что вынудило Беларусь самостоятельно вводить указанные требования на национальном уровне.

Странное решение об отсрочке на четыре года (до 1 марта 2020 года) введения в странах ЕАЭС требований в области ограничения применения опасных веществ в изделиях электротехники и радиоэлектроники поставило Беларусь перед перспективой превращения в ближайшее время в свалку токсических отходов. Открою маленький секрет. Эти требования к 1 марта 2020 года будут уже неактуальны относительно аналогичных международных.

Важно отметить, что только за последние 5–7 лет специалистами отмечается резкое увеличение в Беларуси объемов выбросов опасных для всего живого токсических веществ: ртути – на 50 %, кадмия – на 38 %, свинца – на 36 %.

И кому это надо? Кому угодно, но не тем, кто родился, живет и чьи дети и внуки будут жить в Беларуси!

Мне вообще кажется, что такое жесткое сопротивление со стороны наших восточных соседей – это сознательные препятствия нашим стремлениям к инновационному, устойчивому развитию и введению передовых требований. Себя они уже разрушили и превратились в мировой сырьевой придаток. Мне представляется, что это один из механизмов деиндустриализации, который пытаются провести и в Беларуси. Важно понимать: если белорусские предприятия своевременно не отреагируют на мировые тенденции развития и не будут стремиться к передовым требованиям, компенсировать это отставание в современных условиях будет невозможно. И мы станем, как в старые времена, отсталым северо-западным краем России. Вот к этому, как мне кажется, мы идем усиленными темпами...

И если наши партнеры не заинтересованы в инновациях и развитии, то нам никто не запрещает идти вперед, не нарушая договоренностей в рамках ЕАЭС и не дожидаясь решений из Москвы. И здесь мы, на национальном уровне, уже продемонстрировали успешный пример в развитии технического регулирования в области энергоэффективности и энергомаркировки продукции.

### Как защитить рынок

– Сегодня мы находимся в окружении огромного количества различных электрических устройств, – *подчеркивает директор «Беллис».* – И потребители ни по запаху, ни по внешнему виду не могут определить, насколько они безопасны. И здесь принципиально важное значение имеет активная работа органов Госнадзора, которая в течение последних десяти лет проводится постоянно.

Однако сегодня за некачественную продукцию отвечает магазин (продавец), а поставщики и импортеры – практически нет! И получается, что Госнадзор в одном магазине запретил реализацию некачественных лампочек, а точно такие же продаются в гипермаркете через дорогу.

Да, сейчас нужно найти оптимальную достаточность надзорных мероприятий, чтобы не создать ненужных трудностей тем, кто производит и реализует продукцию. И работа в этом направлении в Беларуси ведется. Однако уже появились настойчивые предложения отменить всё обязательное, а надзор свести практически до нуля!

Народная мудрость гласит: «Как бы не выплеснули ребенка вместе с водой!»

Я считаю, что мы просто не имеем права пускать опасный технический хлам в страну. И только развитие системы технического регулирования и надзора как на национальном уровне, так и в рамках ЕАЭС может коренным образом изменить ситуацию на рынке продукции.

И здесь необходимо руководствоваться передовой мировой практикой.

Сегодня в этой области Госстандарт достаточно активен, но не следует надеяться только на государственные органы. Этого мало!

В тех странах, где надзор работает эффективно, как правило, ведущую роль играют бизнес-ассоциации и общественные организации. Скажем, в Британии уже давно вывели из страны заводы, которые производят кабельную продукцию. Потому что это экологически тяжелое производство. Там созданы объединения потребителей кабельной продукции, которые контролируют рынок. В Германии более эффективно работают не государственные органы надзора, а общественные организации, которые выпускают свои журналы, имеют контакты со всеми производителями.

Мы имеем право и возможности иметь у себя такой же эффективный контроль за рынком.

И здесь, я считаю, представители промышленных ассоциаций, общественные организации Беларуси могут и должны занять самую активную позицию.

Белорусы заслужили право покупать достойный продукт по адекватной цене. И если на рынке за такие же деньги будет представлен качественный товар, все только выиграют.

Сегодня же люди вынуждены покупать втридорога то, что вообще ничего не стоит.

Успешные примеры введения требований и жесткого контроля на рынке, в частности в Евросоюзе, показали, что и бизнес получает более цивилизованные, честные условия для развития. У малого и среднего бизнеса, а также предпринимателей появляется дополнительный бонус формировать здесь производство, рабочие места, платить налоги. При этом существенно расширяется возможность участвовать в процедурах закупки за бюджетные деньги. Это тоже неоспоримый плюс. И в странах Западной Европы на этот момент делают особый акцент.

Важно отметить, что в среднем госзакупки в зависимости от страны – это порядка 16–20 процентов ее ВВП. Суммы колоссальные!

Посмотрите на Польшу. Почему там качественная брендовая техника стоит значительно дешевле, чем у нас? Все просто: у них есть жесткие требования, функционирующий механизм поддержки малого и среднего бизнеса и более-менее эффективный надзор. Введите здесь соответствующие требования, ответственность для первых поставщиков, обеспечьте эффективный надзор на рынке, и будьте уверены, цены будут соизмеримы с польскими.

### Спасать страну нужно вместе

– Сегодня в Беларуси трудно найти работу, – *делится своими мыслями Юрий Пашик.* – И я думаю, что многие еще не до конца понимают глубину этой проблемы. Отсутствие денег в стране затормозило и обрушило все. Рухнул строительный рынок, где огромное количество людей зарабатывало себе на жизнь. Просел производственный сектор. Не получил должного развития малый и средний бизнес в сфере производства. Все промышленные предприятия скукожились, российский рынок сузился, а другие рынки наши завоевать не сумели. И легким движением пера из этой ситуации не выйти.

Многие сегодня готовы на любую работу. Это я вам говорю как директор предприятия, который почти ежедневно отвечает на звонки от знакомых о трудоустройстве. Раньше не хотели работать за 600 рублей, а сейчас уже готовы рассматривать любые предложения и счастливы получать хоть 300!

Я вообще считаю, что все, что у нас происходит, включая историю с декретом о «тунеядцах», – это звенья одного управляемого процесса. Искусственными методами нас сначала приучили к достаточно легким деньгам: поставка продукции на нетребовательный российский рынок, получение дешевых углеводородов, переработка, экспорт.

Все это давало возможность нашей стране неплохо себя чувствовать. А сейчас у нас эту соску отобрали. Прекращена кредитная поддержка, сократили поставки нефти, повышают цену на газ, появились препятствия и ограничения по поставкам продуктов питания в Россию.

При этом тормозится диалог по злободневным темам. Формируется атмосфера настороженности, граничащей с недоверием к Беларуси и всему белорусскому – национальной культуре, политике, товарам, системе технического регулирования и даже документам, подтверждающим ее соответствие требованиям компетентных экспертных организаций, признанных на мировом уровне...

Мы были свидетелями уникального процесса введения в Республике Беларусь требований к энергоэффективности продукции. Абсолютно нормальные, правильные решения вызвали столько раздражения и шума со стороны той же России!.. Почему?

Последнее, что я услышал от своих друзей в Москве: Беларусь собралась в НАТО. Ясное дело, что просто так такие слухи не запускаются…

Поэтому я и говорю: «Родина в опасности!» И надеяться не на кого – спасти страну можем только мы сами.

Предлагаю прекратить увлекаться традиционной белорусской забавой – сожалеть об упущенных возможностях и пытаться догнать свой хвост.

**Марина КОКТЫШ.**

**P.S.** ***В то время, когда материал уже был готов к печати, Юрий Пашик сообщил, что возник большой скандал: «Федеральная таможенная служба России в режиме электронного декларирования не принимает к оформлению грузы, сертификаты на которые выданы не в Российской Федерации, а в других странах ЕАЭС.***

***Судя по действиям российской таможни, есть основания полагать, что это произошло не без участия известных так называемых российских «уполномоченных» посредников, о которых говорилось в статье.***

***Только за три последних дня на российской таможне скопилось товаров ведущих мировых производителей на десятки миллионов долларов США».***

